«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info, в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 78 (4638)**

12 кастрычніка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**Вялікі дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час.**
*Рэдакцыя.*

МОЦНЫЯ ДУХАМ

## Дар'я ЛОСІК: «Калі скончыцца спектакль – я не ведаю...»



Тры з паловай месяцы доўжыцца суд у гомельскім СІЗА-3 над блогерам, кансультантам Радыё Свабода **Ігарам Лосікам**. Судзяць яго ў закрытым рэжыме разам з блогерам **Сяргеем Ціханоўскім**, палітыкам **Мікалаем Статкевічам** ды іншымі палітвязнямі. Іх вінавацяць у падрыхтоўцы «масавых беспарадкаў», «перашкодзе працы ЦВК» і «распальванні сацыяльнай варожасці». Аднак пра ход суда, па сутнасці, нічога не вядома нават родным абвінавачаных. З 24 чэрвеня, калі пачаўся суд, пад сценамі СІЗА-3 дзяжурыць **Дар'я Лосік**, жонка Ігара Лосіка. З ёй я вырашыў пагутарыць.

**– Дар'я, ваша вахта каля следчага ізалятара цягнецца ўжо чацвёрты месяц. Ці даходзяць да вас якія-небудзь навіны пра суд, пра тое, як муж трымаецца за кратамі?**

– Ніякай інфармацыі я тут, пад сценамі СІЗА, не маю. Бывае, даведваюся што-кольвечы толькі з пісьмаў мужа. З тых, якія да мяне дайшлі на хатні адрас у Баранавічы, ведаю, што суд працягваецца. Калі там будуць спрэчкі ці нейкі чарговы этап, калі вынесуць прысуд, пра гэта, на жаль, нічога не ведаю, хоць і дзяжуру каля СІЗА. З адвакатаў таксама ж узята падпіска пра неразгалошванне. Больш за тое, ліставанне з мужам блакіруюць ужо каля месяца. За чатыры апошнія тыдні мне прыйшло толькі адно пісьмо – 23 верасня. Думаю, што гэткім чынам вырашылі ўзмацніць псіхалагічны ціск на майго мужа і мяне. Але гэта бессэнсоўна. Ігар ведае, што я знаходжуся пад сценамі СІЗА. Таму паказаць ці пераканаць мужа, што жонка яго ўжо кінула, забылася на яго, наўрад ці атрымаецца.

**– І што, ні радка пра суд у лістах не было?**

– Адзінае, што ён напісаў: параўнаў суд з *«бібліятэкай, у якой бывае смешна»*. Тады муж надзявае маску, каб не было бачна ўсмешкі, інакш могуць выдаліць з залы суда. Ігар нават выказаў у адным з лістоў шкадаванне, што суд вядзецца ў закрытым рэжыме і што я *«шмат смешнага прапускаю»*, бо зразумела б *«увесь фарс, усю камедыю, якая адбываецца»*. Асацыяцыя з бібліятэкай, відаць, узнікла ў звязку з наяўнасцю вялікай колькасці тамоў у крымінальнай справе – іх там ажно 180.

**– Ігара судзяць разам з палітыкам Мікалаем Статкевічам, якога, паводле інфармацыі яго жонкі Марыны Адамовіч, выдалілі з працэсу прынамсі да пачатку спрэчак. Статкевіч наогул не знаёміўся са справай, лічачы яе сфальсіфікаванай. Можа, Ігар нешта згадваў пра ўдзел палітыка ці іншых фігурантаў у судовым працэсе?**

– Ці вярнулі на працэс Мікалая Статкевіча, якога суд ужо даўно выдаліў з пасяджэнняў, мне не вядома, бо Ігар пра гэта не пісаў. Ва ўсякім разе ў тых пісьмах, якія да мяне дайшлі.

**– На днях вы пакінулі ў Facebook незвычайны пост: напісалі, што Ігар у вас пытаўся, чаму пішаце яму лісты на абрыўках паперы і ўсяго некалькі радкоў?**

– Я сама губляюся ў здагадках, што ж такое сталася. Відаць, цэнзарам у СІЗА прыйшло ў галаву абрываць мае пісьмы, пакідаючы ад іх ашмоцце. Баязлівасць гэта, бяздумнае выкананне загадаў ці адсутнасць хоць якіх маральных прынцыпаў – гэтага я не ведаю. Думаю, што разумныя і моцныя людзі ўяўляюць пагрозу для рэжыму, калі супраць іх прымяняюцца такія вычварныя метады блакіроўкі перапіскі.

**– Нядаўна ў медыя з'явілася інфармацыя, што ў працэсе над вашым мужам ды іншымі палітвязнямі змяніўся суддзя. Можаце гэта пацвердзіць ці абвергнуць?**

– Бачыла сама такую інфармацыю нават у сацыяльных сетках. Аднак у СІЗА-3, на тэрыторыі якога праходзіць працэс, нічога не паведамляюць, і такой абвесткі, наколькі я ведаю, няма. Без дай прычыны суддзю ж наўрад ці мяняюць, я так лічу. Магчыма, былы суддзя не змог узяць на сябе адказнасць асуджаць невінаватых людзей. Але гэта толькі маё меркаванне, а што адбылося на самай справе, можна толькі здагадвацца.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

SOS!

## У Гродне пад COVID-19 перапрафілявалі шосты шпіталь...

*У Гродне прырост колькасці захварэлых на каранавірус – 30–40 працэнтаў. Аб гэтым па мясцовым тэлебачанні паведамілі галоўны ўрач занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі* ***Яніна Шарэнда*** *і галоўны ўрач цэнтральнай гарадской паліклінікі* ***Аляксандр Раманчук.***

Дакладных лічбаў захварэлых на каранавірус у Гродне і вобласці ўрачы не назвалі, але было сказана, што з канца жніўня назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя да росту захворвання на каранавірус – штодня на 30–40 працэнтаў. Урачы канстатавалі, што хворых на каранавірус прымаюць ужо шэсць гродзенскіх шпіталяў.

– *Гэта застаецца фактам: кавід расце,* – зазначыла Яніна Шарэнда.

Яна звярнула ўвагу на тое, што ўздым захворвання быў прадказальны. Сярод прычын некалькі фактараў: у Гродне шмат людзей не атрымалі прышчэпкі, людзі расслабіліся, летам перасталі выконваць меры прафілактыкі і прынеслі інфекцыю ў калектывы пасля адпачынку, з пачаткам навучальнага года ў школы... Уздым захворвання наклаўся на сезонны рост рэспіраторных вірусных інфекцый.

### Вакцына дапаможа справіцца з вірусам!

Са слоў урачоў, эпідэміёлагі правялі аналіз, хто заразіўся каранавірусам са студзеня па верасень 2021 года. Лічбы, як высветлілася, унушальныя.

– *Сярод захварэлых толькі 1,47 працэнта тых, хто быў прышчэплены дзвюма дозамі вакцыны. З іх 64 працэнты перахварэлі ў лёгкай форме, 36 працэнтаў перанеслі хваробу ў сярэдняй ступені цяжкасці, і толькі 0,1 працэнта спатрэбілася шпіталізацыя,* – канстатавала Яніна Шарэнда.

Аляксандр Раманчук у прыклад прывёў Ізраіль, дзе 90 працэнтаў насельніцтва атрымалі прышчэпку. Захворванне там, паводле яго слоў, у дзясяткі разоў паменшылася.

– *Вядома, ніякая вакцына не дае 100-працэнтнай гарантыі. Але ўсе наяўныя ў Беларусі вакцыны прайшлі кантроль бяспекі і кантроль эфектыўнасці,* – падкрэсліла спадарыня Шарэнда. – *Эфектыўнасць складае ад 92 да 95 працэнтаў. Гэта значыць, што са 100 чалавек, якія атрымалі вакцыну, 92–95 маюць якасны імунітэт да COVID-19.*

Урачы настойліва зазначалі, што рэкамендуюць вакцынацыю, але не прымушаюць да яе. Маўляў, людзі павінны ўсвядоміць і зразумець, што час працуе супраць тых, хто дагэтуль не прышчапіўся.

Аляксандр Раманчук нагадаў, што ў Гродзенскай вобласці ёсць магчымасць прышчапіць 60–70 працэнтаў насельніцтва і такім чынам у дзясяткі разоў знізіць захворванне.

На мінулым тыдні ў Гродне пачалі вакцынаваць бяздомных людзей у рамках праекта Чырвонага Крыжа. Прашчэпкі гэтай катэгорыі людзей праводзяць у гродзенскім доме начнога знаходжання аднакампанентным прэпаратам «Спутнік Лайт». Усім абавязкова выдаецца даведка аб правядзенні працэдуры.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

СЛЫШАЛИ?

## Беларусь увеличила поставки продовольствия в Европейский Союз на 43 процента

*Беларусь планирует в этом году экспортировать продовольствия более чем на 6 миллиардов долларов, – заявил на «СТВ» заместитель министра сельского хозяйства и продовольствия* ***Алексей Богданов.***

Рассказал чиновник и о влиянии европейских санкций. По его словам, они на экспорт не повлияют, потому что уже *«давно в Минсельхозпроде диверсифицировали внешнеторговые пакеты таким образом, чтобы невозможно было в какой-то стране против Беларуси что-то сделать»*. Он привел статистические данные, согласно которым экспорт белорусской продукции в страны ЕС вырос на 43 процента.

Кроме того, Богданов обратил внимание на то, что Беларусь не зацикливается только на западном направлении.

*«Китай вырос на 40 процентов к уровню 2020 года. И мы уже на 216 миллионов долларов поставили. А в прошлом году, за весь год, было всего 255. Поэтому растем и там»*, – констатировал замминистра.

ЗА КРАТАМІ

## Эдуард Бабарыка ў СІЗА амаль 16 месяцаў

*Дата, калі пачнецца судовы працэс над экс-кіраўніком ініцыятыўнай групы прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта Віктара Бабарыкі, па-ранейшаму не вядома.*

Нагадаем, што сын **Віктара Бабарыкі** займаўся бізнесам, быў заснавальнікам краўдфандынгавай пляцоўкі «Улей» і сузаснавальнікам пляцоўкі «MolaMola».

Яго разам з бацькам затрымалі і змясцілі ў СІЗА КДБ 18 чэрвеня 2020 года. **Эдуард Бабарыка** абвінавачваецца паводле ч.2 арт.243 КК Беларусі (ухіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры), яму пагражае да 5 гадоў абмежавання волі.

18 кастрычніка будзе 1 год і 4 месяцы, як Эдуард знаходзіцца ў ізалятары, але на гэты момант не вядома, калі пачнецца судовы працэс.

*«Пакуль ніякіх асаблівых навін няма»,* – паведаміла «Народнай Волі» **Ірына Вароніна**, адвакат Эдуарда Бабарыкі.

З той інфармацыі, што паступае ад Эдуарда на волю, вядома, што ён рыхтуецца да зімы, шмат чытае, малюе, а таксама падтрымлівае фізічную форму, наколькі гэта магчыма ва ўмовах знаходжання за кратамі.



*«Нягледзячы на ўсё, Эдуард у сваіх лістах – заўсёды на пазітыве*, – дадае яго дзяўчына **Аляксандра Зверава**. – *Што мяне шчыра ўражвае!»*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ФАКТ

## Клюква в супермаркете дороже мяса?

Октябрь – самый разгар сезона клюквы. Люди целыми семьями собирают ее на болотах и везут в Минск, чтобы продать подороже. Есть и другой вариант – высаживать кусты на своем участке и затем продавать. А дальше в ход идут товарно-денежные отношения, которые могут увеличить стоимость милой сердцу белорусов кислятинки в десятки раз. Так, наценка на клюкву в одном из минских магазинов составила без малого 600 процентов.

В Минск клюкву везут за сотни километров, но даже с вычетом стоимости бензина это выходит выгоднее, чем продавать в регионе. Цены заготовители сейчас выставляют примерно такие: 5 рублей – оптом, 8 – в розницу. Средняя стоимость килограмма ягоды на столичных рынках и ярмарках – от 6 до 9 рублей.

Чаще всего клюкву собирают на болотах, но есть и фермерские хозяйства, которые высаживают определенные сорта, чтобы затем продавать другому бизнесу – пекарням, магазинам, заводам и т.д.

В магазинах цены на клюкву куда выше рыночных. Например, за килограмм ягод бренда «Эко-Хуторок» придется отдать 26 рублей, «Местное известное» – не менее 31 рубля. Максимум по цене из попавшейся в супермаркете клюквы – 39 рублей – просят за продукцию фермерского хозяйства «Ягодная поляна».




– Это садовая клюква, мы ее специально выращиваем. Если покупать для себя, стоимость 8 рублей за килограмм, если оптом (от 100 килограммов) – 7 рублей, – пояснили в фермерском хозяйстве.

То есть если подсчитать, то выйдет от 490 до 560 процентов торговой наценки. При этом клюква не входит в список социально значимых товаров, цены на которые регулирует государство, а затраты магазина больше, чем физлиц или ИП. Всё это в итоге сказывается на стоимости. Ну и продается клюква не килограммами, а в маленькой упаковке, чтобы холодная жабья лапка не так сильно ощущалась на покупательской шее.

*(onliner.by)*

ТЕМА ДНЯ

# «Вот так и возникают случайные связи...»

*Журналист «Народной Воли» посмотрела, много ли людей идут вакцинироваться от коронавируса.*



В столичном медицинском центре на улице Захарова прививают двумя вакцинами на выбор – китайской VeroCell и российским «Спутником». Многие выбирают китайскую вакцину – объясняют это тем, что от нее меньше побочных эффектов. Хотя, конечно, любая побочка – дело строго индивидуальное. У кого-то и от китайской вакцины может повыситься температура и заболеть голова, а кто-то и российский «Спутник» переносит незаметно, как будто и не было никакого укола.

В коридоре центра очередь – примерно человек 20, и люди всё время подходят. Интересуюсь у парня с девушкой, которые стоят передо мной, какой вакциной собираются прививаться.

*«Мы на вторую прививку уже идем – делали китайскую, перенесли абсолютно нормально, ни температуры, ни слабости – ничего не было»,* – охотно рассказывает девушка.

*«Я тоже на вторую прививку,* – подключается к разговору женщина лет пятидесяти на вид. – *Хорошо, что успела привиться три недели назад. Пять дней назад сестра заболела вместе с племянницей. Обе всё это время с высокой температурой, которая плохо сбивается, сделали КТ – 20 процентов поражения легких. Они не вакцинировались. Врач им сказал: ну и напрасно! Поэтому я иду без всяких сомнений».*

*«Девушка, а можно я буду вашей парой?* – с улыбкой спрашивает у меня мужчина средних лет. Словив мой удивленный взгляд, объясняет: – *Сказали, что в новой партии китайской вакцины один флакон рассчитан на две дозы, и его открывают прямо при вас, поэтому желательно, чтобы приходили сразу по двое – долго держать открытую вакцину не рекомендуется».*

Очередь оживляется и моментально начинает разбиваться на пары с комментариями: *«Вот так и возникают случайные связи».*

*«А что, одна очередь и для тех, кто на первую прививку, и для тех, кто на вторую?* – громко спрашивает мужчина лет шестидесяти. – *Нет, ну это неправильно. А если тем, кто уже привился, не хватит вакцины? Что тогда?»*

*«Тогда всё!»* – пытается шутить еще один претендент на прививку.

Кстати, медики предупредили, что нельзя в процедурный кабинет заходить в паре тем, кто делает первую вакцину и вторую, – видимо, компоненты во флаконах разные.

*«Все заходят, но долго не выходят* – делится вслух своими наблюдениями еще один мужчина. – *Я не трус, но както всё равно боюсь...»*

*«Здесь живая очередь?»* – интересуется только что подошедший, пытаясь сориентироваться. *«Пока живая...»* – моментально отзывается кто-то, и все начинают смеяться.

За разговорами и шутками очередь движется быстро.

В кабинете доктор спрашивает, какую вакцину колоть, измеряет температуру и сатурацию. У тех, кто постарше, проверяют еще и давление.

*«Три дня не употреблять алкоголь, место укола сутки не мочить, если повысится температура – примите жаропонижающее»,* – дает короткие инструкции доктор моей напарнице по прививке.

Когда доходит очередь до меня, на всякий случай, пока доктор заполняет бумаги, осторожно спрашиваю: *«Никто у вас сознание после вакцинации не терял? Острых аллергических реакций не было?»*

*«Тфу-тфу-тфу, что вы! Не надо мне здесь такого!* – врач прекращает писать и стучит по столу. – *Да вы не бойтесь, всё будет хорошо. У одного мужчины давление повысилось после прививки, но он был в возрасте, немного посидел, мы перемеряли – всё нормализовалось. Может, переволновался.*

*Я сама прививку делала, правда, не китайскую – «Спутник». Потом рука болела и три дня с температурой под сорок лежала. Но я еще и с больным горлом на прививку шла. А китайская – очень мягкая вакцина, хорошо переносят ее. Хотите, я на всякий случай вас еще и послушаю?»*

Врач дает справку, с которой нужно будет явиться на второй укол, и я иду в соседний кабинет. Там медсестра уточняет место работы, набирает шприц, предупреждает: *«Потерпите, сейчас будет немного больно»,* – и через секунду уже прикладывает ватку к моему плечу. *«Вы пошутили насчет больно?»* – спрашиваю я, потому что укола даже не почувствовала. В ответ она лишь улыбается.

*«Можно сразу уходить или подождать?»* – уточняю у медсестры.

*«Можете подождать, конечно, минут десять, но почти все сразу уходят, мало кто ждет».*

Кстати, в инструкции к инактивированной вакцине от COVID-19 Vero Cell сказано, что необходимо обеспечить наблюдение за вакцинируемыми в течение как минимум 15 минут после введения вакцины.

На второй укол нужно явиться через 21 день.

*«А флакон с вакциной на мое имя, получается, не оставляют? А если за это время вакцина закончится, что тогда делать?* – спрашивает меня тот самый мужчина, который предлагал уколоться из одного флакона. – *Похоже, никто толком не знает... Девушка, так мы с вами встречаемся здесь же через 21 день?»*

Столичные медики, которые работают на «скорой» и приезжают на вызовы, говорят, что на КТ в больницах очереди, иногда ждать приходится по несколько часов – людей болеет много. Врачи настоятельно рекомендуют не только носить маски в общественных местах, но и прививаться.

*«В Беларуси сейчас подъем заболеваемости, ситуация серьезная, вирус мутирует,* – цитирует министра здравоохранения **Дмитрия Пиневича** телеграмканал «Официальный Минздрав». – *Мы регистрируем коронавирус у молодежи, детей и беременных – в первую волну таких пациентов было мало. Если раньше ухудшения состояния можно было ожидать на 7–8-е сутки болезни, то сейчас у пациентов утяжеление состояния медики регистрируют на 3–4-е сутки. Чтобы бороться с этой болезнью, нужно вакцинироваться – это единственное верное решение. В реанимациях на ИВЛ лежат невакцинированные пациенты. Конечно, как и при любой вакцинации, есть люди, которые в силу индивидуальных особенностей организма не реагируют на вакцину. Но вакцинация направлена в первую очередь на то, чтобы сократить количество летальных случаев. Основная часть пациентов после вакцинации болеет намного легче. Разумеется, даже такая форма заболевания неприятна, но по крайней мере не так опасна...»*

Конечно, каждый сам должен решить – прививаться или нет. Но если вакцина дает шанс не оказаться в реанимации на ИВЛ – наверное, всё же стоит прислушаться к рекомендациям врачей.

**Марина КОКТЫШ.**

МОЦНЫЯ ДУХАМ

## Дар'я ЛОСІК:

# «Калі скончыцца спектакль – я не ведаю...»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**– Вы правялі цэлае лета каля СІЗА. Зараз ужо кастрычнік, заўважна пахаладала, асабліва раніцай і ўвечары. Як перажываеце восеньскую пару?**

– Крыху змянілася маё месца дыслакацыі. На лаўцы каля турэмнай крамы, дзе я сядзела ўлетку, ужо холадна – там заўсёды цень. Таму я знаходжуся ў машыне на аўтапаркоўцы пры СІЗА, што на вуліцы Кніжнай. Пішу пісьмы, перыядычна хаджу на пошту, каб іх адправіць, а яшчэ – па каву. Словам, перамясцілася ў аўтамашыну, якой прыязджаю ў Гомель з Баранавічаў кожны панядзелак, а ў пятніцу еду назад да дачкі. Каханне да мужа надае мне сілы.

**– Дачка неяк рэагуе на вашы частыя ад'езды?**

– Наша з Ігарам дачка Паўліна за гэтыя тры з паловай месяцы, што я дзяжуру каля СІЗА, заўважна падрасла. Ужо шчабеча без перастанку, калі я вяртаюся дамоў на выхадныя і знаходжуся з ёй побач. Усё пытаецца: дзе тата? Кажу, што тата ў камандзіроўцы. Яна ж яшчэ не разумее, што такое суд, турма. Адзінае, калі ў нядзелю вечарам я збіраюся адвесці яе да сваіх ці Ігаравых бацькоў, яна цікавіцца: «Зноў павязеш прадукты тату ў Гомель?» Адказваю: «Так, Паўлінка, павязу тату прадукты ў Гомель». «І там ёсць страшныя дзядзькі?» – пытаецца дачка. Я нават не ведаю, што ёй адказваць на такое пытанне, бо нічога такога ёй не гаварыла пра Гомель. Наадварот, дзядзькі ў цывільным мне раней казалі, што яны «ахоўваюць маю ідылію».

**– Так і казалі – «ахоўваюць ідылію»?**

– Менавіта так. Людзі ў цывільным перыядычна мільгаюць тут, але ніякіх выпадаў ці правакацый у мой бок не назіраецца. Нейкія патугі паўплываць на мяне, каб я кінула сваё дзяжурства, ці справакаваць на грубасць былі ў першыя тыдні пасля пачатку суда. Цяпер нічога такога няма. Нават не падыходзяць і не размаўляюць.

**– Як мяркуеце, ці доўга яшчэ вам давядзецца несці сваю вахту і што чакае наперадзе вашага мужа ды ўсіх іншых фігурантаў працэсу?**

– Калі скончыцца спектакль – назаву гэта так, – я не ведаю. Там жа, паўтару, 180 тамоў справы. Вынік наўрад ці будзе пазітыўны альбо хоць у нейкім сэнсе добры для абвінавачаных. Калі паглядзець на сітуацыю ў Беларусі, то бачна, што ўлада ваюе з грамадзянскай супольнасцю. Разлічваць на нейкае справядлівае рашэнне суда не выпадае. Успомніце, як моцна піярыў Следчы камітэт «справу Ціханоўскага» ды ўсіх іншых, хто з ім нібыта звязаны. Нават на лагоднасць прысуду спадзявацца марна.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

ТАМ, ЗА КРАТАМІ

# «Сын другі месяц у ШІЗА. За што?»

*Бацька гродзенскага палітзняволенага Дзмітрыя Фурманава **Аляксандр Васільевіч** наведаў калонію №3 у мястэчку Віцьба Віцебскай вобласці, сустрэўся з яе кіраўніцтвам і высветліў, за што сына больш за месяц трымаюць у ШІЗА.*



**Дзмітрый Фурманаў** *(на фота)* быў затрыманы ў Гродне 29 мая 2020 года разам з Сяргеем Ціханоўскім падчас выбарчага пікета. Яго асудзілі паводле ч.1 арт.342 КК (Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак) да 2 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Пасля прысуду Фурманаў быў пераведзены ў калонію №3, што ў Віцебскай вобласці. Некалькі тыдняў бацькі не атрымлівалі ніякіх звестак аб ім. Высветлілася, што адразу пасля этапіравання ў калонію Дзіму змясцілі ў штрафны ізалятар. А гэта значыць, ні лістоў, ні пасылак падчас знаходжання ў ім ён не мае права атрымліваць. А таксама не можа нікому напісаць.

Бацькоў Дзмітрыя сітуацыя ўстрывожыла, і ў мінулыя выхадныя Аляксандр Васільевіч наведаў калонію №3. «Народнай Волі» ён распавёў, што каля гадзіны меў размову з намеснікам начальніка, які адказвае за рэжым утрымання зняволеных.

Пра прычыны ўтрымання сына ў ШІЗА яму было паведамлена, што яго туды змясцілі за злосныя парушэнні дысцыпліны. Маўляў, няправільна прадставіўся, няправільна адказаў, выйшаў на тэрыторыю не ў ботах, а ў красоўках і таму падобнае...

*«Мне стала зразумела, што сын там знаходзіцца па надуманых прычынах, да яго прадузятае стаўленне, яго нават ізалююць ад асуджаных, як самага небяспечнага злачынцу...»* – лічыць бацька палітзняволенага.

Спатканне з сынам Аляксандру Васільевічу таксама не дазволілі. Апошні раз яны бачыліся ў гродзенскай турме 28 жніўня.

Са слоў Аляксандра Фурманава, ён папрасіў намесніка начальніка калоніі дазволіць сыну патэлефанаваць бацькам пасля таго, як яго выпусцяць з ШІЗА.

*«Мама Дзімы, Вольга Іванаўна, у цяжкім стане, ляжыць хворая, у яе пастаянна скача ціск, яна вельмі хвалюецца за сына,* – кажа Аляксандр Васільевіч. – *Я пакуль імкнуся трымацца, бо трэба ж камусьці нешта рабіць».*

Сам Аляксандр Васільевіч выглядае вельмі стомленым.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ПАЗІЦЫЯ

# Калідоры для нелегальных мігрантаў і паляванне на апанентаў улады

Нічога не разумею: некалі Павел Шарамет і Дзмітрый Завадскі, рыхтуючы матэрыял для расійскага тэлеканала, не змаглі і наблізіцца да беларускай мяжы, як іх затрымалі і кінулі ў турму. А тут днямі чытаю: польскія і латвійскія памежнікі толькі за адны суткі завярнулі больш за 500 нелегальных мігрантаў, якія прасачыліся праз беларускую мяжу. Ну нейкая абракадабра!

Раней амаль штодзень з вуснаў высокіх начальнікаў чулася: «Граніца ў нас на замку». І раптам становіцца відавочным, што без усялякіх праблем яе пераадольваюць сотні і ўжо нават тысячы людзей, якія імкнуцца трапіць у заходнія краіны. Выходзіць, нашы ўлады спецыяльна адкрываюць для іх прапускныя калідоры. Калі так, то ці можа Беларусь гарантаваць, што ў шэрагах уцекачоў са сваёй радзімы няма рэальных тэрарыстаў, якія заўтра будуць учыняць выбухі ў еўрапейскіх гарадах?!

І яшчэ адна акалічнасць. У гэты ж час лукашэнкаўскія праваахоўныя органы наладзілі самае сапраўднае паляванне на беларусаў, якія асмельваюцца выказвацца супраць палітыкі ўлад. Затрымліваюць людзей пры любой падазронасці, судовы канвеер працуе, можна сказаць, без выхадных. А чаму ніхто з пагоннікаў не звяртае ўвагі на тое, што па Мінску свабодна шастаюць групы асоб з нееўрапейскай знешнасцю? Якія ў іх мэты? Чым яны займаюцца? Якія сувязі ўсталёўваюць з некаторымі нашымі грамадзянамі? Хто іх дастаўляе на мяжу? Хто з пагранічнікаў заплюшчвае вочы, калі нелегалы спрабуюць, мінаючы нашу памежную паласу, апынуцца на польскай, літоўскай ці латвійскай тэрыторыі? На гэтыя і многія іншыя пытанні чамусьці не адказваюць кіраўнікі адпаведных службаў. Ці не па ўказцы з самага верху менавіта яны і інспіруюць сітуацыю з нелегальнымі мігрантамі?

Я перакананы, што нашы суседзі, якія з'яўляюцца фарпостам Еўрапейскага Саюза, зробяць усё, каб «няпрошаныя госці» з Афганістана, Ірака, Сірыі і іншых краін, свабодна перасякаючы беларускую мяжу, не маглі трапіць у тую ж Германію ці, скажам, Францыю, дзе яны ў асноўным і хацелі б асесці. А вось блізарукая палітыка беларускага кіраўніцтва ў адносінах да нелегальных мігрантаў канчаткова пасварыць Беларусь з Еўрапейскім Саюзам. Нам гэта трэба?

Я немалады чалавек, многае пабачыў на сваім вяку. Але не ўзгадваю, каб Беларусь знаходзілася ў такім складаным становішчы, як сёння. З аднаго боку, моцна сапсаваліся адносіны са Злучанымі Штатамі Амерыкі, краінамі Заходняй Еўропы, з другога – пасля фальсіфікацый выбараў галасавання падчас прэзідэнцкіх выбараў фактычна адбыўся раскол грамадства на тых, хто падтрымлівае лукашэнкаўскі рэжым, і тых, хто актыўна выступае за новыя выбары, за прыход да ўлады людзей, якія рэальна змаглі б адцягнуць Беларусь ад бездані. Што надзвычай трывожыць: калі ў самы бліжэйшы час не будуць прыняты дзейсныя захады, то мы можам згубіць суверэнітэт краіны. Заўважце, як актыўна спрыяюць гэтаму крамлёўскія імперцы. Яны, вобразна кажучы, спяць і бачаць нас, беларусаў, у сваіх захопніцкіх абдымках.

Трывожна, вельмі трывожна на душы! Ведаю, такія ж хваляванні перажываюць і ўсе мае родзічы, сябры. Яны, як і я, разлічвалі, што пасля прэзідэнцкіх выбараў да ўлады прыйдуць новыя людзі, з сучасным, а не з закасцянелым мысленнем – і Беларусь выйдзе на шырокі прасцяг. На жаль, адбылося самае горшае, чаго ніхто не чакаў.

**Валянцін КАЗЛОЎСКІ,**
**даўні прыхільнік «Народнай Волі».**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
12 КАСТРЫЧНІКА 2021 г.

З НАГОДЫ

з Алесем СІВЫМ

# Патрыятызм ці голая прапаганда?

Аматарам спорту пра **Андрэя Барбашынскага** нагадваць не трэба. Вядомы гандбаліст мінскага СКА быў чэмпіёнам свету сярод юніёраў, на Алімпіядзе 1992 года ў Барселоне ў складзе зборнай Савецкага Саюза заваяваў залатыя медалі. Пагуляў у чэмпіянатах Іспаніі, Венгрыі, Германіі. Адным словам, спартыўная кар'ера ў чалавека – дай Бог кожнаму!

Зараз Андрэй Станіслававіч працуе ў Беларускай федэрацыі гандбола, займаецца бізнесам, а апошнім часам пачаў «свяціцца» і ў палітыцы. У мінулым годзе, напрыклад, Барбашынскі быў адзіным прадстаўніком спартыўнай супольнасці сярод давераных асоб Аляксандра Лукашэнкі. Пасля выбараў падпісаў адкрыты ліст датычных да спорту асоб, якія выступалі за дзеючую ўладу. Цяпер раз-пораз дае інтэрв'ю на «актуальныя» тэмы.

На мінулым тыдні на сайце «Гродзенскай праўды» з'явілася гутарка са славутым гандбалістам, у якой ён менш за ўсё казаў пра тое, як падымаць гандбол на новыя вышыні ці пра поўны правал беларускіх алімпійцаў на Гульнях у Токіа, дзе быў усталяваны антырэкорд – заваявалі толькі 7 медалёў. Андрэй Барбашынскі капаў значна глыбей! Вось толькі некаторыя разважанні былога спартсмена пра сітуацыю ў краіне і ў свеце (цытаты – на мове арыгінала):

*«Коллективный Запад продолжает нагнетать обстановку вокруг ситуации, которую некоторые уже называют миграционным кризисом, и искать виноватых. При этом все мы читаем новости и видим, какое бесчеловечие и агрессию демонстрируют страны-соседки к беженцам, как издеваются над ними физически. Этим самым они попросту демонстрируют несостоятельность своих политических амбиций»;*

*«Страны коллективного Запада при малейших трудностях поступают отнюдь не в интересах своего народа. И в этом кроется главное отличие политики руководства нашей страны от лидеров европейских стран»;*

*«В новом проекте Конституции усовершенствованы те нормы и понятия, которые прямо влияют на жизнь людей. И здорово, что каждый совершеннолетний житель страны может принять участие в обсуждении и согласовании Основного закона. Выбирать дальнейший путь будет народ. Так было и будет»;*

*«Союз Беларуси и России, на мой взгляд, – это проект, который выгоден обеим странам. Подписание дорожных карт дает много новых возможностей белорусам…*

*Усиление сотрудничества наших государств станет серьезным шагом к укреплению суверенитета и независимости. Как для Беларуси, так и для России».*

Адным словам, таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Пра такіх кажуць: і шавец, і кравец, і каваль, і стругаль.

Праўда, у інтэрв'ю Андрэй Барбашынскі не ўдакладняў, хто ініцыяваў гэты самы «міграцыйны крызіс». Не сказаў і пра тое, чаму нашы пагранічнікі заплюшчваюць вочы, калі нейкія афганцы ці іракцы прасочваюцца праз беларускую мяжу на польскую альбо літоўскую тэрыторыю. Выказаўся пра тое, што *«выбирать дальнейший путь будет народ»*, але чамусьці забыўся нагадаць пра тыя шматлікія факты фальсіфікацый падчас апошніх выбараў, калі таксама выбіраў народ.

Гандбаліст у захапленні ад Саюза Беларусі і Расіі – *«проекта, который выгоден обеим странам»*, а вось пра тое, што з мінулага месяца Жыровіцкая сярэдняя школа ў Гродзенскай вобласці, адкуль родам і сам спартсмен, перастала быць беларускамоўнай, мабыць, забыўся сказаць. Хаця яшчэ год таму Андрэй Барбашынскі ў інтэрв'ю Радыё Свабода казаў даволі правільныя словы:

*«Мова – наш падмурак, наша гісторыя. Яе трэба вывучаць, пашыраць, прасоўваць. Вось тады будзе цудоўна. Людзі, якія прынцыпова размаўляюць па-беларуску, – яны што, «неперспектыўныя»? Калі беларус, то вельмі кепска, што няма жадання гаварыць на роднай мове. Чым мы адрозніваемся ад палякаў, немцаў, французаў? Найперш мовай!»*

Сёння такой рыторыкі ад спадара Барбашынскага ўжо не чуваць, усё больш – панегірыкі ў бок улады ды заклапочанасць пра *«усиление сотрудничества»* з Расіяй.

Выказаўся Барбашынскі і пра *«патриотизм»* у спорце, узгадаўшы скандальную гісторыю на Алімпіядзе з беларускай лёгкаатлеткай **Крысцінай Ціманоўскай**, якая ў вачах чыноўнікаў аказалася вінаватай толькі за тое, што набралася смеласці публічна выступіць з крытыкай:

*«Очень жаль, что, как оказалось, в составе сборной была спортсменка, которой чуждо чувство ответственности за страну и всю команду. Легкоатлетка Кристина Тимановская продемонстрировала неспортивное поведение и спровоцировала скандал. Вывод один: если человек не благодарен государству, в котором родился, получил образование, возможность заниматься спортом, реализовывать себя, участвовать в тренировочных сборах, разве можно говорить о его патриотизме? Значит, и права выступать за государство на Олимпиаде она не имела».*

Тут, як кажуць, без каментарыяў. Аказваецца, сапраўдныя патрыёты – гэта тыя, хто не мае права выказаць уласную пазіцыю. А дзе ж дэмакратыя, спадар Андрэй? Ці вам сёння больш падабаецца дыктатарскі рэжым?

Дарэчы, брала інтэрв'ю ў Барбашынскага яшчэ адна патрыётка – Анжаліка Дудко, якая заявіла, што *«с Олимпиады-2020 белорусы привезли 21 медаль»*. Патрыятычна павялічыла рэальную колькасць заваяваных медалёў роўна ў тры разы! Пра такіх, як яна, сам Андрэй Барбашынскі, мабыць, сказаў бы так: *«ей не чуждо чувство ответственности за страну»*.

SOS!

**Паводле звестак праваабаронцаў, у Беларусі налічваецца ўжо больш за 800 палітзняволеных.**

СТАЛО ИЗВЕСТНО...

# Нелегальные мигранты нашли дорогу в Европу из Беларуси через Эстонию и Финляндию

Нелегальные мигранты з Ближнего Востока, пробиравшиеся ранее в Европу из Беларуси через Литву, Латвию и Польшу, нашли новые пути проникновения в ЕС, используя для этого Эстонию и Финляндию.

В прошлом месяце Береговая охрана Финляндии возбудила семь уголовных расследований, связанных с попытками проникновения в страну нелегальных мигрантов из Беларуси.

*«Под подозрением более десятка контрабандистов, почти все – иракцы. Часть из них проживает в Финляндии. Но это число может быть больше, поскольку расследование еще не закончено»*, – рассказал в четверг финской газете *Ilta-Sanomat* начальник отдела по предупреждению преступности Береговой охраны Финского залива капитан-лейтенант **Юкка Текокоски**.

Мигрантов доставляют в Финляндию разными путями, в том числе и на паромах из Эстонии. Для этого их прятали в багажниках машин.

По словам Текокоски, *«это опасная практика, багажник автомобиля не предназначен для путешествий»*.

Для борьбы с нелегальным проникновением людей в страну полиция Финляндии наладила сотрудничество с коллегами из стран Балтии.

По словам Текокоски, ситуация похожа на иммиграционный кризис 2015 года. *«Многие люди приезжают в ЕС нелегально, это организованная деятельность, на кону в которой стоят большие деньги»*, – сказал представитель Береговой охраны.

По его оценке, поездка нелегала со своей родины через Беларусь в Финляндию или другую страну ЕС стоит от 5 до 15 тысяч евро.

По данным Департамента статистики Литвы, в республику в этом году прибыли более 4100 незаконных мигрантов, которые пересекли литовско-белорусскую границу. Четверть из них – несовершеннолетние, почти треть (29%) – женщины. По этой причине в стране объявлена экстремальная ситуация.

В Латвии с 10 августа предотвращено незаконное пересечение государственной границы 1503 лицами. Из-за роста количества случаев незаконного пересечения латвийско-белорусской границы правительство объявило с 11 августа до 10 ноября чрезвычайную ситуацию в Лудзенском, Краславском, Аугшдаугавском краях, а также в Даугавпилсе.

Страны Балтии обвиняют власти Беларуси в организации потоков мигрантов и называют это гибридной агрессией.

*(intefax.by)*

РЕБУС

# Транзит газа через Беларусь сокращен почти в четыре раза

## *Что это означает для бюджета страны?*

Российский Газпром сократил поставку газа в Европейский Союз через Беларусь на 70 процентов.

Экспорт через нашу страну снизился со 112 миллионов кубометров 26 сентября до всего 30 миллионов кубометров 3 октября.

Значительное сокращение объемов транзита означает, что в несколько раз меньше будет и прибыль Беларуси от транзита. Однако официально суммы не озвучивались.

Ранее аналитик информационно-аналитического агентства RUPEC **Александр Собко** сообщил, что *«польско-белорусское направление всегда было дешевле, потому что там короче маршрут и достаточно низкая цена транзита – 7 долларов за тысячу кубометров (через Украину – около 35 долларов)»*.

В 2020 году в Газпроме заявили, что хотят сохранить объем транзита газа через Беларусь на уровне 2019 года. Точных цифр там не назвали. В 2019 году был поставлен план переправить в Беларусь и транзитом 39,29 миллиарда кубометров. Таким образом, речь может идти о миллиардах долларов. Особенно если сокращение также коснется и следующего, 2022-го, года.



Впрочем, российские аналитики считают такой сценарий маловероятным. Ведь сокращение транзита газа через Беларусь означает простаивание мощностей, которые и так принадлежат Газпрому после продажи властями Беларуси «Белтрансгаза».

КОЛЕСОМ ДОРОГА

# В Беларуси подешевели кредиты на Geely

## *Теперь – по 5,5 процента годовых*

Раньше кредиты на Geely обходились в 7 процентов годовых, а сейчас – на 1,5 п.п. меньше. Такие условия будут действовать для покупателей первые 2 или 3 года в зависимости от размера взноса: если внести своими деньгами хотя бы 25 процентов от стоимости машины, то льготную ставку зафиксируют на 36 месяцев, если меньше – на 24. В последующем проценты будут равны ставке рефинансирования, увеличенной на 9,77 п.п.

Банк готов предоставить финансирование на покупку любой модели Geely, собираемой в Беларуси. Максимальный срок кредита – 7 лет, но погасить долг можно досрочно. Залог как таковой не требуется – им выступает приобретаемый автомобиль со страховкой. Заявка рассматривается менее получаса.

По статистике, чаще всего Geely в кредит покупают мужчины. Средний возраст – 42 года. Обычно с помощью банка покрывают большую часть стоимости Geely: 15–20 тысяч рублей выделяют из личных сбережений, порядка 30 тысяч – заемные средства.

Среди моделей успехом пользуется кроссовер Geely Atlas. Кроме того, кредиты часто берут на компактный кроссовер Geely CoolRay, кросс-хэтчбек Geely GS и купе-кроссовер Geely Tugella.

ВЕЗУХА!

# Гомельчанка пользовалась приложением Оплати™ и выиграла квартиру в центре столицы

Десятый этап рекламной игры «Мечта в Оплати 3» завершился розыгрышем квартиры в престижном жилом комплексе «Минск Мир» в самом центре столицы. Победителем стала **Мария Сахарчук** из Гомеля. А в минувший четверг девушка вместе со своим мужем Виталием впервые побывала в новом жилье.

Что собой представляет приложение Оплати™? Это специальная платежная система с широким функционалом, удобство которой оценили уже более 580 тысяч пользователей по всей Беларуси. С помощью приложения вы можете рассчитываться за покупки через QR-коды, оплачивать услуги в системе ЕРИП, совершать переводы денежных средств между картами разных банков абсолютно без комиссии. Кроме прочего, в приложении налажен функционал общения и передачи денег без процентов с другими пользователями. Также можно создать групповой кошелек. Очень удобно, когда, например, нужно сброситься на совместное путешествие, пикник или общие нужды родительским комитетом. По сути, Оплати™ – это электронный кошелек с большим количеством удобных и интуитивно понятных функций. Их полный список, а также партнеров сервиса можно найти на сайте o-plati.by.

К слову, партнерами сервиса Оплати™ стали уже более 4000 компаний по всей стране. Среди них – «5 элемент», «ЭЛЕКТРОСИЛА», «Burger King», «Остров чистоты», «Мила», «Буслик», «ЕВРОШОП» и многие другие.



Мария Сахарчук радуется выигрышу.

Кто же и для кого придумал столь удобное приложение? Белорусы – для белорусов. Сервис разработала компания LWO. Этот участник белорусского IT-сектора уже много лет занимается созданием различных решений для банков и госучреждений. Компания также является резидентом Парка высоких технологий.

*(По сообщению БЕЛТА.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 КАСТРЫЧНІКА 2021 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Каго «нябесныя вярхі» караць павінны за грахі?

На Гомельшчыне спецыялісты Дзяржстандарту ў кансервах, якія паступілі з Расіі, выявілі ДНК свіней, хоць на этыкетках пазначана, што гэта індычыя і гусіныя паштэты.

Ну хто не любіць есці сала,
Тым болей мяса са сцягна?!
У нас такіх, напэўна, мала,
Бо ў Беларусі ўжо здаўна
Свіны наедак – самы слынны,
Ён разганяе ў жылах кроў,
Таму і ёсць у вёсках свінні,
Чаго не скажаш пра кароў,
Хаця на іх усе надзеі
Былі ў насельніцтва раней.
А мусульмане, іудзеі
Спрадвеку бэсцілі свіней,
І калі раптам імі з'есца
Скрылёк свіное свежыны,
Дык іх чакае ў пекле месца,
Бо не адмоляць грэх яны.
Тут іудзеяў ёсць не многа,
І мусульман не надта шмат.
Дагэтуль не гнявілі Бога:
Адны захоўвалі шаббат,
Другія справы, як належыць,
Штодня выконвалі намаз.
І не ўжывалі «бруднай ежы»,
Якая звыклая для нас:
Не нюхалі свіного сала,
А каўбасу не бралі ў рот.
Ды ўсё-ткі гора напаткала,
Прабіўшы на халодны пот...
Калі свініну нельга есці
Нехрысціянам нашым, дык
Набіць курэй ім можна дзесьці,
А калі трапіцца індык,
Яго зжаваць ільга таксама.
Падыдзе мяса і з гусі.
Не напаткае потым драма,
Як птушку ўвогуле з'ясі.
Каб рацыён захоўваць гэты,
Азербайджанец і яўрэй
Куплялі розныя паштэты
З гусей, індычак і курэй.
Ва ўсякім разе этыкеткі
З такімі птушкамі былі,
Каб ведалі бацькі і дзеткі,
За што даюць свае рублі.
І як жа ў іх зайгралі нервы
Ад бессаромнае хлусні,
Калі празналі, што кансервы
Былі не з птушкі, а з свінні.
А што за злыдні нахлусілі,
Падсунуўшы прадукт такі?
Кансервы з «братняе Расіі»
Прывезлі хцівыя дзяклі.
Напэўна, неблагія грошы
Прынёс ім гэтакі падман,
Дарма, што вынік нехарошы
Для іудзеяў, мусульман,
Бо ўсё трымаюць на кантролі
Яны, «нябесныя вярхі»,
І не зважаюць, што міжволі
Былі дапушчаны грахі.
***
Спазналі мы падман чарговы,
Бо ўжо, на жаль, не ўпершыню
Расійцы дураць нам галовы
Або падкладваюць свінню.

**«Не злапамятная»**

Жанчына з нашага сяла
Сярод людзей бывала мала –
Яна вядзьмаркаю была.
Але аднойчы мне сказала:
– На свеце колькі ні жыла,
Мне ўсе рабілі многа шкоды.
Ды толькі я не помню зла.
Таму запісваю заўсёды…

**Памылка ў тэорыі**

Мы выслухоўваем хлусню
Пра чалавека з года ў год:
«Ён палку ўзяў упершыню,
Каб з дрэва збіць саспелы плод».
За палку ўзяўся чалавек,
Што малпам блізкая радня,
Каб ёю даць па галаве
Таму, хто плод раней падняў…

**Прывятныя**

Дашнікі ў апошні час
Прыветна ставяцца да нас,
І падказаць з іх кожны рад,
Дзе ёсць бліжэйшы банкамат.

**Смутак з камфортам**

Хоць шчасце не ў грашах
(І продкі
Казалі гэтак з даўніны),
Ды дазваляюць нам усё-ткі
З камфортам сумаваць яны…

ЗАКУЛИСЬЕ

# Белорусская фракция российской Госдумы

*«Народная Воля» изучила новый состав Госдумы России и нашла в нем немногочисленную, но интересную белорусскую фракцию.*

## Прораб Москвы



Самым известным представителем российского депутатского корпуса, имеющего связи с Беларусью, является многолетний зам московского градоначальника Юрия Лужкова, который некоторое время даже исполнял обязанности мэра Москвы, **Владимир Ресин**. Его по праву называют «прорабом Москвы», так как много лет именно Ресин курировал архитектуру и строительство в российской столице.

Владимиру Иосифовичу 85 лет, но на пенсии ему не сидится. По итогам выборов в Госдуму, которые прошли в сентябре, Ресин получил депутатский мандат от партии «Единая Россия».

Владимир Ресин родился в феврале 1936 года в Минске, хотя корни родителей уходят в местечко Речица Чериковского района. Родители были репрессированы, потом амнистированы. Отец всю жизнь занимался лесом, отвечал за производство спичек в масштабах всего Советского Союза. Таким образом, Владимир Иосифович родом из очень влиятельной по советским меркам семьи, ведь в СССР в периоды катаклизмов люди в первую очередь закупали именно спички.

*«Я родился в Беларуси, награжден белорусским орденом Почета – за большой личный вклад в укрепление экономических, научно-технических и культурных связей между Республикой Беларусь и Москвой. Люблю бывать и в Минске, и в других городах и поселках. Можно сказать, я влюблен в республику, она мне не чужая. И я не ставил бы так вопрос – что объединяет народы России и Беларуси? Потому что это один народ, единый... У нас общие корни, история, мечты, задачи... Что еще? Главное – мы Союз России и Беларуси возводим и крепим на надежном фундаменте. Это я как строитель говорю, а не как политик»*, – заявлял в одном из интервью Владимир Ресин.

К позиции этого российского депутата, кажется, комментарии не требуются.

## «Депутат на миллиард»




Самым статусным российским депутатом-белорусом, видимо, следует признать **Виктора Пинского**. В прошлом созыве он являлся заместителем руководителя фракции «Единая Россия». А это, напоминаем, фракция правящей партии.

Виктор Витальевич Пинский родился в Лиде в семье военного. В 1981 году окончил среднюю школу №10 и даже год проработал в родном городе слесарем-инструментальщиком на заводе «Оптика».

В 1982-м Пинский поступил в Военный Краснознаменный институт Министерства обороны СССР в Москве, после его окончания работал в системе военных судов в Петропавловске-Камчатском и в Приморском крае. Собственно, оттуда он и начал свою политическую карьеру, избравшись местным депутатом.

Кстати, Виктор Пинский – специалист по офшорам. Он был одним из авторов законопроекта о создании САР (специального административного района) на острове Октябрьский в Калининграде и острове Русский во Владивостоке как альтернативы зарубежным офшорным зонам. После этого Пинского стали называть «депутатом олигархов», так как благодаря этой инициативе попавшие под санкции российские бизнесмены всё-таки могут выводить свои зарубежные активы. Алексей Навальный даже посвятил Пинскому отдельное расследование под названием «Депутат на миллиард».

Весной этого года Виктор Пинский в составе делегации Приморского края приезжал в Беларусь, встречался с Александром Лукашенко, наведал родные места. Его комментарий по поводу белорусских протестов был нейтральным. *«Я следил за событиями в Беларуси, естественно, переживал за происходящее. Уверен, что скоро в республике ситуация стабилизируется. Никто не будет больше вмешиваться в дела Беларуси. Народ должен сам принимать решения, как ему жить»*, – заявил он. Тут и не разберешь, то ли за власть, то ли за народ высказался российский депутат, который в прямом смысле слова живет масштабами от Бреста и Гродно до Владивостока.

## Адепт интеграции



Самый колоритный уроженец Беларуси в российской Госдуме – это, наверное, **Александр Ющенко**. Вот уж кого судьба покидала!

Александр Андреевич Ющенко родился 19 ноября 1969 года в Мозыре в семье военного. Когда семья переехала в Москву, он был еще ребенком.

Поиски себя у Александра Ющенко оказались чрезвычайно интенсивными. Окончил Военно-космическую академию имени Можайского, Российскую академию государственной службы по специальности «политология», МГИМО. Работал на Ленинградском телевидении вместе с Александром Невзоровым. А потом приземлился в КПРФ.

С 1995 года он становится помощником председателя ЦК КПРФ Геннадия Зюганова, с 2007-го – пресс-секретарь Зюганова и фракции КПРФ в Государственной думе. Имеет и опыт депутатской работы – в Народном хурале Бурятии возглавлял фракцию своей партии.

Действия Александра Лукашенко после президентских выборов он называет «проявлением мужества».

*«У Лукашенко есть поддержка со стороны белорусов. Лукашенко сейчас президент, и его избрание основано на поддержке людей»*, – уверен Ющенко. И в этом нет ничего странного, потому что КПРФ нигде не имеет такого теплого приема, как у официальных белорусских властей.

## Наши люди из Бобруйска

От партии «Единая Россия» депутатом Госдумы также стал белорус **Николай Цед**. Одни считают его писателем, другие – тренером по восточным единоборствам, третьи – членом «питерской команды» президента России.

Николай Григорьевич Цед родился в деревне Озеры Бобруйского района. Но юность провел в Ленинграде. Окончил Военный институт физической культуры, в 2004 году – Северо-Западную академию государственной службы.

С 1981-го по 1998 год служил в Вооруженных силах СССР и России.



Трудовую деятельность начинал в качестве автослесаря. Затем был научным сотрудником в Институте физкультуры им.Лесгафта на кафедре рукопашного боя, тренером сборной Санкт-Петербурга по рукопашному бою.

Позже переехал в Москву, где сначала руководил дочерней структурой Управления делами президента РФ, а потом стал заместителем директора ОАО «Росспиртпром».

Затем работал в администрации Костромской области заместителем губернатора региона.

В апреле 2013 года был назначен главой администрации Приморского района Санкт-Петербурга. Сейчас в связи с избранием в Государственную думу сложил полномочия.

В автобиографии, опубликованной на страничке Николая Цеда в соцсетях, он пишет, что является обладателем третьего дана по хапкидо и чойкквандо (корейские боевые искусства, сходные с японским айкидо), а также вице-президентом Федерации хапкидо России. Кроме того, он написал несколько книг, посвященных культуре самураев: здесь и философско-историческое сочинение «Дух самурая – дух Японии», и приключенческий роман «Мастер».

На должности главы одного из районов Санкт-Петербурга Цед политическими заявлениями не отметился. Он честно признавался, что является не политиком, а «государевым слугой».

## Сяду в скорый поезд

Новичок в политике и еще один белорус. Ему из белорусской глубинки доехать до российской Госдумы позволили … поезда.



**Анатолий Лесун** – уроженец поселка Паричи Светлогорского района Гомельской области. Окончил Белорусский институт инженеров железнодорожного транспорта по специальности «инженер путей сообщения по эксплуатации железных дорог». Эти дороги сначала привели его на должность дежурного железнодорожной станции Лянгасово, а со временем – и на должность начальника Горьковской железной дороги. Сейчас в связи с избранием в Госдуму он покидает эту должность. Как и все чиновники, Лесун стал депутатом от партии «Единая Россия».

Ирина МАЛЬЦЕВА.

### ОТ РЕДАКЦИИ

Когда Российская Федерация вводила войска в Крым, все депутаты-украинцы в Федеральном собрании РФ проголосовали за это решение. Поэтому наивно предполагать, что депутаты-белорусы будут отстаивать в Госдуме наши интересы. Но и игнорировать тот факт, что в рядах российских законодателей есть белорусская фракция, тоже не стоит.

